ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# КНІГА НОША

№ 55
чэрвень, 2019

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Уладзімір СЦЯПАН:

# «Паэзія ўвесь час побач...»

**– Шаноўны Уладзімір Аляксандравіч, большасць чытачоў ведае Вас як празаіка, але не так даўно выйшла Вашая кніга «Папяровая шапка: хайку». Вы вырашылі вярнуцца да паэзіі?**

– Я з паэзіі не сыходзіў. Вершы пісаў і пішу. Калі-нікалі друкую. Зборнік хайку «Папяровая шапка» склаўся паступова. Там ёсць як радкі, напісаныя ў мінулым годзе, так і дваццаць гадоў таму. Вяртацца да паэзіі мне не давялося, бо яна ўвесь час побач, ці не штодня запісваецца, перапісваецца...

**– Кнігі ў Вас выходзяць даволі рэдка, хоць у Вас шмат публікацый у літаратурных выданнях. Адна з публікацый летась была адзначана літаратурнай прэміяй «Залаты апостраф». Чым гэтая прэмія каштоўная для Вас асабіста?**

– Кожная прэмія – каштоўная… Найперш увагай тых, хто яе дае. Для мяне гонар атрымаць прэмію «Залаты апостраф» ад рэдакцыі часопіса «Дзеяслоў». Калі шчыра, то такая адзнака мяне моцна і прыемна здзівіла.

**– Вы шмат і актыўна пішаце ў сацыяльных сетках, у Фэйсбуку, публікуеце свае назіранні, уражанні, новыя творы. Што дае Вам такая магчымасць непасрэдных зносінаў з чытачамі?**

– Публікацыі ў сацыяльных сетках даюць магчымасць хуткіх кантактаў з чытачамі, якіх у беларускай літаратуры мала. Тых, хто каментуе мае творы ў Фэйсбуку, я ведаю асабіста. Не ўсіх, але многіх. Калі атрымліваецца зрабіць чытачом беларускай літаратуры чалавека новага, то гэта радуе. У сур'ёзныя размовы пра мастацтва ў сацыяльных сетках я не веру.



**– Распавядзіце, калі ласка, над чым Вы цяпер працуеце, якія Вашы далейшыя творчыя планы?**

– Пішу прозу, вершы, малюю, фатаграфую. У гэтым годзе выйдзе кніжка прозы «Хвалі». Якой яна будзе – не ведаю, але значную частку тэкстаў з гэтай кніжкі я паказваў на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. Карацей, хвалююся…

### Даведка «Кніганошы»:

**Уладзімір Сцяпан (Уладзімір Аляксандравіч Сцепаненка) – празаік, паэт, кінасцэнарыст, мастак, журналіст. Аўтар кніг прозы «Вежа» (1990), «Самнасам» (1990), «Адна капейка» (2012), «Настаўнік. Сяргей Пятровіч Катkoў» (2013), кнігі паэзіі «Папяровая шапка: хайку» (2018) ды інш. Нарадзіўся ў 1958 г. у в. Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.**

# МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Ласкоў Іван. Выбраныя творы. Прадм. Л. Філімонавай. – Мінск: Беларуская навука, 2019. – 524 с.: [2] л. іл. – (Беларускі кнігазбор: БК. Серыя I, Мастацкая літаратура).**

У кнігу выбраных твораў беларускага паэта, празаіка, даследчыка этнагенезу беларусаў Івана Ласкова (1941–1994) увайшлі яго найлепшыя вершы, паэмы «Трыццаць» і «Кульга», раман пра сібірскія прыгоды двух падлеткаў – беларуса і якута – «Стралецкая быліна», падрабязная аўтабіяграфія, артыкулы і навуковыя даследаванні, сярод якіх асабліва зацікавіць чытача рэзка палемічны ліст да знакамітага расійскага пісьменніка Аляксандра Салжаніцына «"Сольются в русском море"?».




**Мудроў Вінцэсь. Восень у Вільні: апавяданні. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 188 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 117).**

Зборнік складаюць 10 апавяданняў рознай тэматыкі, сярод якіх вылучаецца навела «Восень у Вільні», у якой апавядаецца пра падзеі, звязаныя з прыходам у Заходнюю Беларусь Чырвонай арміі.




**Варонік Святлана. Пацеркі даверу: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 112 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 118).**

У паэтычным зборніку Святланы Варонік – асэнсаванне навакольнага свету, прыроды, чалавека ў кантэксце зямнога быцця і Космасу. Гэта шлях чуйнай душы праз спазнанне болю, расчараванняў – да светласці і гармоніі. Пачуццё і думка выяўляюцца ў лаканічных формах, якія даюць чытачу прастору для роздуму, для расчытвання падтэксту і пранікнення ў таямніцы паэтычнага слова.




**Саўка Зміцер. Беларуская цывілізацыя ў Амэрыцы: Пяцьдзясят гадоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня (1949–1999) = Zmicier Sauka Belarusan Civilization in America: Fifty years of Belarusan American Association (1949–1999). Рэд. Н. Гардзіенка. Прадм. Л. Юрэвіч. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 604 с.: [12] с. іл. (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 38).**

Кніга Змітра Саўкі (1965–2016) выходзіць на трэція ўгодкі ягонай заўчаснай смерці. Гэта 50-гадовая гісторыя Беларуска-Амерыканскага Задзіночання, а таксама ўспаміны сябраў гэтай арганізацыі. Складзеныя разам, тэксты адлюстроўваюць арганізацыйныя і персанальныя аспекты больш як паўвекавога існавання Беларускай Цывілізацыі ў Амерыцы.




**Газеты «Бацькаўшчына» і «Беларус». Выбранае: Да 70-годдзя газеты «Беларус» (1950–2020). Уклад., падрыхтоўка тэкстаў, суправаджальныя тэксты, агульнае рэдагаванне, каментары, біяграфічны даведнік Наталлі Гардзіенкі, Лявона Юрэвіча. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 616 с. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны; кн. 39; Спадчына: агледзіны).**

Чацвёртая кніга ў падсерыі «Спадчына: агледзіны» серыі «Бібліятэка Бацькаўшчыны» прысвечана дзвюм найбуйнейшым беларускім эміграцыйным перыёдыкам – газетам «Бацькаўшчына» і «Беларус» Яны аб'ядноўвалі раскіданых па розных краінах суродзічаў, але, галоўнае, фармавалі і фармулявалі супольнае бачанне нацыянальнага мінулага і сучаснасці. Многія артыкулы, успаміны, развагі, інтэрв'ю, змешчаныя на іх старонках, важныя і актуальныя да сёння. Невялікая частка тэкстаў уключаная ў гэтую анталогію, якая мае паспрыяць пашырэнню цікавасці не толькі да згаданых выданняў, але і ўвогуле да нацыянальнай карціны свету ва ўспрыманні эміграцыі.




**Барадулін Рыгор. Дзённікі і запісы. Выпуск 6. 1992–1993. Укл., прадм., Н. Давыдзенка. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 284 с. [4] с.: іл. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3).**

Чарговы том (выпуск) «Дзённікаў і запісаў. 1992–1993» народнага паэта Беларусі Р. Барадуліна раскажа чытачам пра напружанае грамадскае жыццё творцы, новыя тэмы і накірункі ягонай паэзіі. У кнізе змешчаны болей за сто не друкаваных раней вершаў, накідаў, сяброўскіх эпіграм, віншаванняў і прысвячэнняў. Вялікая колькасць зносак на згаданых асоб і творы паэта дапамогуць магчымым даследчыкам у вывучэнні жыцця і творчасці паэта.




**Міхаліцына Кацярына. Хто расце ў парку. Мастак Аксана Була; пераклад з украінскай Наталлі Зенькі. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 44 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 28).**

Гэта невялікая гісторыя пра важныя рэчы: пра рост і пошук сябе, пра падабенства і непадобнасць і важнасць мець побач кагосьці, хто хоць трохі і хоць у чымсьці да цябе падобны. А яшчэ – пра дрэвы вакол нас, міма якіх праходзім, і не заўсёды ведаем, хто гэта тут расце. Таму кніга спатрэбіцца ўсім, хто хоча ведаць па імені распаўсюджаныя паркавыя дрэвы, навучыцца адрозніваць іх: у казачнай гульнявой форме дзякуючы выдатным ілюстрацыям так лёгка запомніць, як яны выглядаюць, якая ў іх кара, насенне, лісце, кветкі.

Маленькі парастак, які вырас у парку, азіраецца вакол, уважліва прыглядаецца да сваіх суседзяў – бярозы, дуба, рабіны, клёна, ясеня, таполі, каштана, таполі, вярбы – і шукае, чый жа ён. Таму што быць нічыйным – сумна. Таму што шчасце – «гэта знайсці ў гэтым свеце кагосьці падобнага на цябе».




**Міхаліцына Кацярына. Хто расце ў садзе. Мастак Аксана Була; пераклад з украінскай Наталлі Зенькі. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 52 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 29).**

Салавей вярнуўся з далёкай Афрыкі і шукае, дзе звіць сабе гняздо. А ў садзе столькі дрэваў і кустоў! Якое з іх можа стаць домам для птушачкі? Магчыма, гэта вішня, чарэшня або алыча? Сліва або груша? Кожнае дрэва распавядае салаўю сваю гісторыю, падкрэсліваючы, чым яно асаблівае. У аповедах дрэваў узнікае таксама вобраз дзядулі-садавода – разумнага і добрага, які ставіўся да дрэваў як да адухоўленых істотаў, размаўляў з імі і песціў – і яго сям'і, якая да гэтага часу жыве ў доме побач, паважае дрэвы і збірае іхныя плады.

Кніга «Хто расце ў садзе» – не толькі неверагодна цікавае падарожжа па садзе, у якой чытачы даведаюцца, чым асаблівыя пладовыя дрэвы і як іх распазнаць, гэта аповед пра пошук дому і свайго месца ў свеце, пра тое, што толькі спазнаўшы свае карані, ты можаш зразумець праўду пра сябе сапраўднага.




**Мара Алесь. Ад Магніта-Балабуя да Готланда. – Мінск Галіяфы, 2018. – 124 с.: іл.**

Новую кнігу мастака Алеся Мары (Аляксея Марачкіна), знанага і як паэта, склалі дзіцячыя і юнацкія ўспаміны, развагі пра жыццё і творчасць, якія мяжуюць з дзённікавымі запісамі, зробленымі ў горадзе Вісбю, на шведскай выспе пасярод Балтыкі. Арганічнай часткай яе сталіся графічныя творы. Гэтае літаратурна-мастацкае выданне адрасуецца найперш аматарам выяўленчага мастацтва і прыгожага пісьменства.




**Андэрсан Лена. Мулан і бабуля. Мастак Лена Андэрсан. Пераклад са шведскай Надзі Кандрусевіч. – Мінск: ІП Кандрусевіч Надзея, 2019. – 26 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; выпуск 30).**

Гэта першая з дзвюх кніг, у якой мы бачым адзін дзень з жыцця дзяўчынкі Мулан, які яна бавіць са сваёй любімай бабуляй.




**Брама: літаратурна-мастацкі альманах. Магілёў. №6, 2018. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – 182 с.**

Шосты нумар літаратурнага альманаха Магілёўскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Брама» знаёміць з паэзіяй, прозай, перакладамі, літаратуразнаўчымі артыкуламі мясцовых аўтараў. Прадмову да выдання напісаў сябар Рэдакцыйнай рады Міхась Булавацкі. Пад рубрыкай «Спадчына, успаміны, дакументы» змешчаны ўспаміны Тамары Аўсяннікавай «Аб падзеях 1968 года ў БДУ» і «Згадка пра Пысіна», артыкул Сяргея Чыгрына «Пісьменнікі з Магілёўшчыны прыгадваюць Сяргея Дарожнага», артыкулы Валерыя Васілеўскага «Жыццё ў аперэце» і «Янка з сям'і каваля», артыкул Уладзіміра Ліўшыца «...Ён быў надзвычай чэсным і сумленным чалавекам», прысвечаныя 80-годдзю з дня нараджэння Барыса Іофе. Раздзел «Крытыка, літаратуразнаўства» ўтрымлівае артыкул Яраслава Клімуця «Спасцігаючы сутнасць літаратуры» пра крытычную і навуковую творчасць Міхася Тычыны.




**Быкаў Васіль. Поўны збор твораў: у 14 т. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – Т. 10, кн. 2: Артыкулы, эсэ, прадмовы, выступленні, інтэрв'ю, гутаркі, калектыўныя творы (1981–1990). – 640 с.**

Гэта першы ў гісторыі Поўны збор твораў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава (1924–2003). Другую кнігу дзясятага тома склала публіцыстычная і літаратурна-крытычная спадчына Васіля Быкава 1981–1990 гадоў: артыкулы, эсэ, прадмовы, выступленні, інтэрв'ю, гутаркі і калектыўныя творы.




**Кастусь Цвірка. Воўчая выспа: [кніга прозы]. – Мінск: Харвест, 2019. – 640 с.**

Кнігу прозы К. Цвіркі склалі: дапоўнены раман «Воўчая выспа» (пра ўцёкі з Сібіры раскулачанага Ігнася Каралені ў сваю палескую вёску, дзе заставалася яго жонка з двума сынамі, аднаго з якіх знеслі да сябе ў лес ваўкі), апавяданні і аповесці пра мінулае і сучаснасць.




**Пятровіч Барыс. Ідзі адзін, альбо Студзень жыцця. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – 96 с.**

Гэтая незвычайная кніга складаецца з запісаў, зробленых у далёкім студзені 1993 года, калі аўтар раптам вырашыў весці дзённік, а таксама штодзень пісаць кароткую прозу ў прыдуманых ім «жанрах». У выніку атрымаўся адзін месяц жыцця, асветлены з розных бакоў, – асабістага, грамадскага, творчага... Другой «дзейнай асобай» гэтай кнігі з'яўляецца маладая дзяржава Беларусь, якой яна была ў студзені 1993 года. Такім чынам, чытачам прапануецца ўсяго адзін месяц з жыцця чалавека і краіны, якіх ужо няма. Бо час змяніў іх незваротна.




**Горват Андрэй. Прэм'ера (Трагікамедыя у дзвюх частках з антрактам). – Мінск: Медысонт, 2019. – 186 с.**

У новай іранічнай лірычнай аповесці Андрэя Горвата «Прэм'ера» персанажы стамляюцца быць кардоннымі фігуркамі, стараюцца не патануць у шматслойнасці існавання і вучацца казаць: «Je vis. Я жыву».




**Мартысевіч Марыя. Сарматыя: паэма. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 44 с.: іл.**

У эпісталярнай паэме Марыі Мартысевіч апісваецца гісторыя кахання, якая мела месца невядома калі і невядома дзе. Але яно і няважна, бо «Сарматыя» – гэта таксама гісторыя пра тое, што звычайна здараецца з людзьмі, якія наважыліся быць не такімі, як усе, у любыя часы і ў любой краіне. Сарматы – напаўміфічныя качэўнікі, апісаныя яшчэ Герадотам. Іх плямёны засялялі Паўночнае Прычарнамор'е ў III–IV ст. н. э. Праз тузін стагоддзяў ад іх пачала весці свой род шляхта Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, адмяжоўваючыся такім чынам ад сялянскага саслоўя. Аўтарка паэмы спрабуе пачуць водгулле гэтага «старога добрага шляхецкага сарматызму» ў Беларусі XXI стагоддзя.




**Лістота Ніна. Запрашэнне: зборнік вершаў. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2019. – 114 с.**

«Запрашэнне» – дэбютны паэтычны зборнік Ніны Лістоты. Яе вершы даюць надзею і натхненне кожнаму, у іх адчуваецца юнацкі давер да будучыні. Гэтая кніга прапануе сустрэць разам світанне на даху шматпавярховіка – як у аднайменным вершы. Гэта – запрашэнне адчуць той свет, які прыдумала паэтка.




**Гары Рамэн. Абяцанне на досвітку: раман. Пер. з фр. В. Колас. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2018. – 328 с.**

Праўдзівая гісторыя ад аднаго з найлепшых французскіх раманістаў другой паловы XX стагоддзя. Рамэн Гары згадвае сваё дзяцінства ў Вільні і Варшаве, юнацтва ў Ніцы, маладосць у Афрыцы і Англіі падчас Другой сусветнай вайны. Ён робіць усё, каб выканаць абяцанне і апраўдаць матчыну самаахвярнасць і бязмежную любоў. Маці верыла, што аднойчы ейны сын будзе французскім амбасадарам, кавалерам Ордэна Ганаровага легіёна, знакамітым пісьменнікам. Усе прароцтвы здзейсніліся.




**Колас Якуб. Сымон Музыка. Без цэнзуры. Уклад. А. Трафімчык. – Мінск: Медыял, 2018. – 288 с.**

У аснове новага выдання паэмы Якуба Коласа «Сымон Музыка» ляжыць першая рэдакцыя твора, Яна дапоўнена дапісанымі ў 1924 – 1925 гг. радкамі. Прынцыповыя выпраўленні месцаў першай рэдакцыі падаюцца побач. Чытач мае магчымасць убачыць, як дапрацоўвалася паэма. Галоўнымі чыннікамі тут былі эстэтыка і цэнзура. Дадатковы цымус надаецца захаваннем асаблівасцей Коласавай арфаграфіі. У такім выглядзе першая рэдакцыя «Сымона Музыкі» цалкам не публікавалася ніколі.

Выданне адпраўляецца ў шлях з дабраславення малодшага сына класіка Міхася Міцкевіча.




**Жуковіч Васіль. Любіце Украіну = Любіть Україну: пераклады твораў Валадзіміра Сасюры. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2018. – 74 с.**

Гэта другая кніжка перакладаў Васіля Жуковіча з украінскае паэзіі. Першая пад найменнем «Энергія запаветаў» выйшла ў 2006 годзе. У ёй былі змешчаны вершы Тараса Шаўчэнкі, Івана Франка і Лесі Украінкі, перакладзеныя з мовы арыгіналу.




**Геніюш Ларыса. ...унукам: Вершы і лісты. Без цэнзуры. – Мінск: Медыял, 2018. – 168 с.**

У гэтую кнігу ўвайшлі 52 дзіцячыя вершы Ларысы Геніюш, якія ніколі не друкаваліся раней. Яшчэ 39 вершаў падаюцца ў некалькіх варыянтах – кніжным і аўтарскім (часам іх было два-тры). Чытач можа сам ацаніць, наколькі былі адрэдагаваныя і адцэнзураваныя гэтыя творы. Упершыню друкуюцца 17 лістоў унукам. Шыкоўныя аўтарскія малюнкі з гэтай перапіскі дазволілі цалкам аздобіць кнігу. У выніку чытач мае самы поўны збор дзіцячых вершаў Ларысы Геніюш, аздоблены аўтарскімі малюнкамі паэткі. Поруч даюцца лісты і паштоўкі ўнукаў, якія яны дасылалі бабулі ў адказ.




**Рэмбо Арцюр. Выбранае. Пер. з французскай Андрэя Хадановіча. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 96 с. (Паэты планеты).**

Арцюр Рэмбо (1854–1891) – геніяльна адораны французскі паэт, які ўсе свае шэдэўры стварыў ва ўзросце ад 15 да 19 гадоў, а потым ніколі больш не вяртаўся да літаратуры. Рэфарматар французскай паэзіі, які радыкальна змяніў як яе вобразную сістэму, так і саму версіфікацыю. Тэарэтык і практык творчасці як «яснабачання». Моцна паўплываў на паэтаў-дэкадэнтаў і мастацтва сімвалізму. Папярэднік сюррэалістаў з іх «аўтаматычным пісьмом». У зборнік увайшлі 50 вершаў з усіх чатырох кніг Рэмбо ў беларускіх перакладах паэта Андрэя Хадановіча.




**Тагор Рабіндранат. Гітанджалі: ахвярныя песнаспевы. Пер. з англійскай А. Разанава. – Мінск: Выдавец Зміцер Колас, 2018. – 120 с. (Паэты планеты).**

Рабіндранат Тагор (1861–1941) – індыйскі паэт, драматург, філосаф, мастак, кампазітар, грамадскі і палітычны дзеяч. Пісаў на бенгалі. У 1912 годзе, плывучы параходам у Вялікабрытанію, пераствaрыў зборнік сваіх ахвярных песнаспеваў («Гітанджалі») на англійскай мове, і ў тым жа годзе яны былі выдадзеныя ў Лондане. А ўжо ў 1913 годзе Р. Тагор стаў першым нееўрапейцам-лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры.




**Чырвінскі Віталь. Беларусь у войнах Расійскай імперыі. Асобы і падзеі. Мінск: Харвест, 2019. – 448 с.: іл.**

У кнізе прадстаўлены ваенна-біяграфічны агляд аднаго з вырашальных перыядаў беларускай гісторыі. Праз кароткія цытаты, успаміны сучаснікаў і апісанне знешнасці аўтар імкнецца ажывіць гістарычныя партрэты герояў кнігі (прадстаўнікоў расійскага генералітэту, ваенных вучоных, вынаходнікаў і паўстанцкіх камандзіраў). Падрабязны пералік падзеяў і фактаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да вайны, дае магчымасць паглыбіцца ў гістарычную атмасферу XIX – пачатку XX стагоддзяў. Значную частку кнігі займаюць падзеі паўстанняў 1831 і 1863 гадоў: сотні бітваў, баёў і сутычак паўстанцаў Літвы-Беларусі з урадавымі войскамі, узаемны тэрор і трагічныя лёсы камандзіраў паўстанцкіх атрадаў. Адрасавана беларускім вайскоўцам і ўсім, хто цікавіцца ваеннай гісторыяй Беларусі.




**Кулевіч Руслан. Горад адзін, успаміны розныя: Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2018. – 116 с.**

Кніга змяшчае ўспаміны шаснаццаці жыхароў Гродна пра перыяд 1930–1940 гг., а таксама фотаздымкі з іх сямейных архіваў і выявы тагачаснага горада. Героі распавядаюць гісторыі свайго дзяцінства і юнацтва, апісваюць падзеі пры зменах улады і штодзённае жыццё гараджан.




**Павач Андрэй Легенды не старой Гародні. – Гродна: ЮрСаПрынт, 2018. – 158 с.**

Кніга змяшчае большасць легенд пра Гродна – як старажытных, так і найноўшага часу. Кніга будзе карысная экскурсаводам, настаўнікам гісторыі, вучням старэйшых класаў, і ўсім, хто цікавіцца загадкамі Гродна.




**Рэлігійнае жыццё ў Вялікім Княстве Літоўскім і Каралеўстве Польскім у XVI–XVIII стагоддзях: у коле мясцовых спраў і праблем: зб. навук. арт. / Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі; навук. рэд. А.А. Скеп'ян ; рэдкал. А.А. Каваленя [і інш.]. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2019. – 324 с.: іл.**

Зборнік прысвечаны разнастайным пытанням рэлігійнага жыцця ў Вялікім Княстве Літоўскім і Польскім каралеўстве XVI–XVIII стагоддзяў. Асаблівая ўвага нададзена адносінам, што складваліся паміж прадстаўнікамі розных рэлігій, рэлігійным практыкам і канфліктам. Большасць прадстаўленых у ім артыкулаў была створана па выніках міжнароднай навуковай канферэнцыі «У коле мясцовых спраў і праблем: рэлігійнае жыццё ў Вялікім Княстве Літоўскім і Каралеўстве Польскім у XVI–XVIII стст.», праведзенай Інстытутам гісторыі НАН Беларусі ў 2017 г. Яна стала завяршальнай з пачатай у 2015 г. серыі сустрэч навукоўцаў Польшчы, Літвы і Беларусі пад агульнай назвай «У коле мясцовых спраў і праблем», арганізаванай Інстытутам гісторыі НАН Беларусі, Інстытутам гісторыі Літвы і Інстытутам гісторыі ПАН.




**Гарліцкі Анджэй. Юзаф Пілсудскі: 1867–1935. Пер. з пол. Я.Я. Салейчука. – Мінск: А.М. Янушкевіч, 2019. – 760 с., [24] л. іл.**

Фундаментальная кніга вядомага даследчыка гісторыі XX ст., прафесара Варшаўскага ўніверсітэта Анджэя Гарліцкага прысвечана асобе Юзафа Пілсудскага – чалавека, якому было наканавана змяніць лёс Польшчы і польскага народа. Аўтар крытычна паставіўся да героя сваёй кнігі і на падставе вялікага шэрагу гістарычных крыніц і дакументаў стварыў падрабязную, разнапланавую карціну яго жыцця.

Анджэй Гарліцкі (1935–2013) – гісторык і публіцыст, прафесар Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар шматлікіх кніг па найноўшай гісторыі Польшчы. Нястомны папулярызатар гісторыі – працяглы час супрацоўнічаў з такімі прэстыжнымі часопісамі як «Культура» і «Палітыка». Яго біяграфія Юзафа Пілсудскага была першай у пасляваеннай Польшчы. З вялікім поспехам шматразова перавыдавалася ў Польшчы, апошняе выданне пабачыла свет у 2017 годзе. Здабыла славу як найбольш фундаментальнае і крытычнае даследаванне палітычнага шляху Юзафа Пілсудскага – выбітнай і супярэчлівай постаці ў гісторыі Польшчы.




**Мельников Эдуард. Возвращение в Бобруйск. Хроники советской повседневности. – Минск: А.Н. Янушкевич, 2019. – 362 с.**

«Каб выхаваць дзіця, патрэбна цэлая вёска». Такая прымаўка ёсць у шматлікіх народаў свету. А што казаць пра Бабруйск! Хто тут вырас, не забудзе яго ніколі, дзе б ён цяпер ні жыў і кім бы ні быў. Храналагічныя рамкі апавядання акрэслены гадамі дзяцінства і маладенства яго героя – звычайнага бабруйскага хлапчука. Яго вачамі ўбачаны шматлікія рэаліі той пары: расповяды родных і блізкіх пра нядаўнюю вайну і акупацыю роднага горада (пра такое не пісалі ў тагачасных газетах), характэрныя, але цяпер цяжка ўяўляльныя дэталі штодзённага савецкага жыцця – двор, школа, эміграцыя яўрэяў, першыя ўрокі выхавання пачуццяў на фоне тагачасных ідэалагічных дэкарацый…

У кнізе вядомага журналіста Эдуарда Мельнікава шмат падрабязнасцяў савецкага жыцця 1950–1960-х гг., якія могуць здзіўляць і нават шакаваць. Але ўсё гэта – абсалютная праўда, нават у дробязях. Аказваецца, да мінулага нічога і дадаваць не трэба. Яно само стварае легенды.




**Мельнікаў Андрэй. Наталля Арсеннева: Зорка беларускай паэзіі. – Мінск: «Харвест», 2018. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Наталля Арсеннева (1902–1997) – выдатная паэтка і перакладчыца, творчасць якой на працягу ўсяго жыцця адбывалася за межамі БССР. Пасля 1990 года творы Арсеннвай зрабілся вядомымі і папулярнымі ў незалежнай Беларусі.




**Мельнікаў Андрэй. Аляксандр Уласаў: Волат беларускага адраджэння. – Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2018. – 64 с. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Аляксандр Уласаў (1874–1941) – грамадскі і культурніцкі дзеяч, публіцыст, выдавец. Са снежня 1906 да траўня 1914 гг. быў рэдактарам-выдаўцом «Нашай Нівы», ідэйнага цэнтра беларускага нацыянальнага і культурнага Адраджэння. Арганізатар і адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі. Ахвяра сталінскіх рэпрэсіяў.




**Тарас Анатоль. Язэп Юхо: Сапраўдны патрыёт Беларусі. – Рыга: Інстытут беларускай гісторыі і культуры, 2019. – 64 с. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»).**

Язэп Юхо (1921–2004) – выдатны гісторык і праваэнаўца. Заснаваў і распрацаваў новы кірунак у айчыннай навуцы – гісторыю дзяржавы і права Беларусі. Разам са сваімі вучнямі стварыў навуковую школу па гэтай тэме. Акрамя таго, даследаваў шматлікія іншыя праблемы беларускай гісторыі. Аўтар шэрага падручнікаў, мноства навуковых і папулярных артыкулаў.

**Мастацкія вырабы магнацкіх мануфактур XVII – першай паловы XIX ст. у музейных калекцыях: аспекты даследавання матэрыяльнай кулыуры Беларусі: матэрыялы міжнар. навук.-практ. канф. (Мірскі замак, 23 ліст. 2017 г.) / Музей «Замкавы комплекс «Мір»; навук. рэд. І.М. Скварцова. – Мір: Музей «Замкавы комплекс «Мір», 2018. – 146 с.: іл.**

У зборнік уключаны артыкулы, якія прысвечаны праблемам атрыбуцыі, рэстаўрацыі і ўвядзення ў навуковы




абарот твораў XVII – першай паловы XIX ст. з музейных і прыватных калекцый. Прадстаўленыя працы гісторыкаў, мастацтвазнаўцаў, музеязнаўцаў, рэстаўратараў з Беларусі, Расіі і Украіны змяшчаюць гісторыка-культурныя даследаванні, якія маюць не толькі тэарэтычнае, але і практычнае значэнне. Матэрыялы канферэнцыі будуць цікавыя музейным супрацоўнікам і студэнтам, якія навучаюцца па адпаведных спецыяльнасцях.




**1 января 1919 года. временное рабоче-крестьянское советское правительство Белоруссии: документы и материалы Редкол. В.Д. Селеменев (гл. ред.) [и др.]; науч. ред. М.Ф. Шумейко. Минск: НАРБ, 2018. – 266 с.**

Зборнік дакументаў і матэрыялаў прысвечаны першаму ўраду Савецкай Беларусі. Цалкам апублікаваны пратаколы паседжанняў урада і Цэнтральнага Бюро Кампартыі Беларусі, маніфест пра абвяшчэнне БССР. Раздзел «Хроніка» прысвечаны гісторыі стварэння і дзейнасці ўрада. Прыведзены біяграфіі ўсіх чальцоў урада і змешчаны іх партрэты. Выданне разлічана на гісторыкаў, юрыстаў, архівістаў, працаўнікоў музеяў і бібліятэк, краязнаўцаў.




**Щавлинский Н.Б. Первая мировая война и национальный вопрос в деятельности белорусских партий, организаций и обществ на территории России и Украины. – Минск: БГАТУ, 2018. – 144 с.**

Упершыню на вялікім фактычным матэрыяле ў манаграфіі даследуецца дзейнасць беларускіх партый, арганізацый і грамадстваў у гады Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Расіі і Украіны. Адлюстраваны малавядомыя старонкі з жыцця беларускіх уцекачоў, асветлены праблемы, звязаныя са спробамі беларускіх вайсковых арганізацый стварыць сваё нацыянальнае войска на Румынскім фронце і выкарыстоўваць яго ў інтарэсах будаўніцтва беларускай дзяржаўнасці.

Кніга прызначана для навуковых і адміністрацыйных працаўнікоў, студэнтаў шырокага круга спецыяльнасцяў, усіх тых, хто цікавіцца гістарычным мінулым беларускага народа.

# У Мінску прайшоў выпускны Школы маладога літаратара







У мінскім Літаратурным музеі Максіма Багдановіча прайшла выпускная вечарына Школы маладога літаратара.

Падчас імпрэзы адбыліся літаратурныя чытанні выпускнікоў і выпускніц, прысутных павіншаваў старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч і выкладчыцы Школы Ганна Бутырчык, Наталля Паваляева і Людміла Рублеўская. Некалькі добрых слоў сказалі і сёлетнія каардынатары ШМЛ Усевалад Сцебурака і Ціхан Чарнякевіч. Усе выпускнікі атрымалі сертыфікаты пра заканчэнне Школы.

Школа маладога літаратара пры ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» працуе з 2012 г. як нефармальны адукацыйны праект для дарослых. На практычных занятках з пастаяннымі выкладчыцамі, лекцыях і майстар-класах запрошаных навукоўцаў і аўтараў маладыя, апантаныя літаратурай людзі вучацца чытаць і пісаць прозу і слухаць сябе ды іншых. Заняткі ў Школе маладога літаратара пачынаюцца ў кастрычніку і праходзяць у Мінску два разы на месяц па суботах цягам васьмі месяцаў. Фармат: практычныя заняткі з пастаяннымі выкладчыцамі, лекцыі і майстар-класы запрошаных навукоўцаў і аўтараў.

***Ад імя Рады і Сакратарыята ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» шчыра віншуем новае пакаленне беларускай прозы з выпускам і паспяховым заканчэннем Школы і зычым не спыняцца на дасягнутым. Чакаем ад вас новых літаратурных твораў і кніг!***

**Прэсавая служба СБП**



## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Анхела Эспіноса Руіс. Колер крылаў. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 116). – 248 с.**

У кнігу Анхелы Эспіносы Руіс «Колер крылаў» увайшлі паэтычныя творы (як новыя, так і выбраныя з ранейшых кніг), а таксама апавяданні і калумністыка. Асобным раздзелам прадстаўлены пераклады з бенгальскай, ангельскай, іспанскай, польскай, рускай, чэшскай і японскай моў. Кніга была выдадзеная як узнагарода пераможцы літаратурнай прэміі Міхася Стральцова з фармулёўкай *за пачуццёвае і метафарычнае багацце паэтычнай мовы і адважнае імкненне асэнсаваць таемнасць беларускага быцця.*




**Сяргей Палуян. След, вечна жывы. – Мінск: Кнігазбор, 2018. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; выпуск 114). – 336 с.**

Аснову выдання складае творчая спадчына самабытнага публіцыста, крытыка, празаіка і паэта Сяргея Палуяна, адшуканая даследчыкамі ва ўкраінскай і беларускай перыёдыцы. У кнізе ўпершыню найбольш поўна прадстаўлены ўспаміны пра пісьменніка, яго родных і знаёмых, мастацкія творы, прысвечаныя яму, матэрыялы пра радаслоўе Палуянаў. Укладальнікі кнігі, руплівыя літаратуразнаўцы Таццяна Кабржыцкая і Вячаслаў Рагойша, ставяць Сяргея Палуяна поруч з Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Вацлавам Ластоўскім, рашуча і доказна ўпісваюць яго асобу ў панараму гісторыка-філасофскіх, эстэтыка-культурных характарыстык беларускага Адраджэння пачатку XX ст.




**Роберт ван Гулік. Следства вядзе суддзя Дзі: восем кітайскіх дэтэктыўных гісторый. Пер. з англ. Г. Янкуты. – Мінск: Кнігазбор, 2019. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»). – 232 с.**

Роберт ван Гулік – нідэрландскі пісьменнік і ўсходазнаўца, найбольш вядомы дзякуючы цыклу твораў пра суддзю Дзі, «Шэрлака Холмса Старажытнага Кітая», які расследуе загадкавыя злачынствы ў падуладных яму акругах. У апавяданнях са зборніка «Следства вядзе суддзя Дзі» аўтар выкарыстоўвае прыёмы, распрацаваныя кітайскай дэтэктыўнай літаратурай, у тым ліку паралельнае расследаванне некалькіх злачынстваў адначасова. Дзякуючы часопісу «ПрайдзіСвет» і Саюзу беларускіх пісьменнікаў, цяпер і беларускамоўны чытач мае магчымасць пазнаёміцца з прыгодамі знакамітага дэтэктыва і яго памочнікаў у выдатным перакладзе Ганны Янкута.

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ІП «Уладзімір Сіўчыкаў»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65




ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
КНІГА НОША
№ 55
чэрвень, 2019
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 55 15.11.2019.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com